# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 42 15 кастрычніка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2288) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


*СТО ГАДОЎ НАЗАД*

## ЦІХІ, ЦЯРПЛІВЫ І ЧУЛЫ НАРОД

### БЕЛАРУСЫ І ПАЛЯКІ Ў АСВЯТЛЕННІ М. ФЕДАРОЎСКАГА

Сучаснымі беларускімі навукамі — этнаграфічнай і літаратуразнаўчай — зроблена нямала для вывучэння розных з'яў духоўнай культуры беларускага народа. Аднак у апошні час нават не рабілася спроба даследаваць такія важныя ўласцівасці нашага народа, як тэмперамент і характар. Праўда, у некаторых працах часам закраналіся характар, тэмперамент беларуса, але гэта рабілася часцей за ўсё выпадкова, без пэўнага намеру іх даследавання. Крыху больш пашанцавала народнаму светапогляду. Нягледзячы на тое, што цікавасць да гэтых пытанняў узнікла яшчэ ў XIX стагоддзі, асаблівай увагі на іх не звярталі. Пра тыя ці іншыя рысы характару беларусаў, а таксама іх светапогляд у мінулым — пачатку нашага стагоддзя — пісалі беларускія, рускія і польскія даследчыкі. Характар і светапогляд нашага народа за апошнія 70 гадоў значна змяніліся, бо адбыліся вялікія перамены ў яго сацыяльна-эканамічным, палітычным і культурным жыцці. Аднак беларусы за гэты перыяд поўнасцю не пазбавіліся ўсіх тых якасцей і рыс, якія ім былі ўласцівы раней. Таму падобныя працы ўяўляюць для нас каштоўнасць, хоць і напісаны яны некалькі дзесяцігоддзяў назад.

Сярод публікацый польскіх аўтараў, у якіх так ці інакш закраналіся гэтыя праблемы, асаблівай увагі заслугоўвае гісторыка-этнаграфічны нарыс М. Федароўскага «Віцебск і Віцебшчына», надрукаваны ў краязнаўча-этнаграфічным часопісе «Земя» ў 1912 годзе. Спынімся мы толькі на адной працы вучонага, у ёй, як ні ў якой іншай польскай рабоце пачатку XX стагоддзя, характарызуецца больш - менш усебакова і глыбока характар, тэмперамент і светапогляд беларускага народа. Свае думкі, вывады, абагульненні пра наш народ ён падаў у выглядзе тэзісных накідаў. Нарыс напісаны ім у аснове сваёй аб'ектыўна, але шэраг вывадаў вучонага з пазіцыі дасягненняў сучаснай навукі здаецца не заўсёды пераканаўчым. Федароўскі падае гістарычныя звесткі пра Віцебск і Віцебшчыну, некаторыя гарады, паселішчы, коратка гаворыць аб глебе, флоры, фауне, пабудовах, транспартных сродках, адзенні, ежы беларусаў, згадвае пра народныя святы, танцы. Вучоны параўноўвае беларусаў з палякамі, літоўцамі, прадстаўнікамі іншых этнасаў. Хоць нарыс прысвечаны карэнным жыхарам Віцебшчыны, аднак ён мае адносіны і да ўсіх беларусаў, асабліва гэта датычыць народнага светапогляду, характару і г. д.

Этнограф, пражыўшы сярод беларусаў амаль 30 год, добра вывучыў іх станоўчыя і адмоўныя рысы і, бадай, лепш, чым

(Заканчэнне на 4-й стар.).

### ЗАМЕЖНЫМ ПАДПІСЧЫКАМ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

**Паважаныя суайчыннікі!**

**Кошт падпіскі на наш штотыднёвік на 1993 год, на міжнародныя паштовыя паслугі вырас у дзесяткі разоў. У сувязі з гэтым рэдакцыя праводзіць апытанне з мэтай найбольш эфектыўнага давядзення інфармацыі да тых замежных суайчыннікаў, хто сапраўды мае патрэбу ў такой форме лучнасці з Бацькаўшчынай. Ветліва просім вас паведаміць аб сваіх намерах, падпісвацца ці не на «Голас Радзімы». Даводзім да ведама тых, хто зацікаўлены, каб газета рэгулярна прыносіла яму весткі з роднага краю ці айчыны бацькоў і хто ў стане выдзеліць са свайго бюджэту 40 долараў ЗША за падпіску, то гэтыя грошы і ахвяраванні накіроўвайце на адрас: 220600, г. Мінск, вул. Заслаўская 10, разліковы рахунак № 060070063 у Белзнешэканомбанку, за падпіску на «Голас Радзімы». Альбо непасрэдна ў рэдакцыю.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.**

«АКНО» — ЯК СРОДАК САЦЫЯЛЬНАЙ РЭАБІЛІТАЦЫІ ІНВАЛІДАЎ

## ВЫЖЫВЕМ

**У пачатку года ў Мінску выйшаў першы нумар новага літаратурна-мастацкага і публіцыстычнага часопіса «Акно». І хоць сёння з'яўленне яшчэ аднаго друкаванага выдання нікога не здзіўляе, гэты часопіс усё ж можна лічыць унікальным, ён не мае аналагаў на тэрыторыі ўсяго былога СССР. А робіць яго такім тое, што аўтары надрукаваных у ім апавесцяў, апавяданняў, вершаў — інваліды. Тыя, хто стварае гэты часопіс, ведаюць пра жыццё і праблемы сваіх аўтараў таксама не па чутках — і ў галоўнага рэдактара, і ў яго намесніка, і ў некаторых супрацоўнікаў той жа самы лёс.**

**Зараз я хачу прапанаваць вам інтэрв'ю з галоўным рэдактарам часопіса «Акно», членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, інвалідам першай групы Анатолем ЧАРКАСАВЫМ.**

**— Маё першае пытанне не пра часопіс. Я хачу спытаць, што значыць быць інвалідам у нашым грамадстве?**

— Што значыць быць у нас інвалідам? Ва ўсім свеце ў інвалідаў цяжкая доля, але ж у нас... Вось адно назіранне: за ўсе пасляваенныя гады я ніколі нідзе ў афіцыйнай прэсе не сустракаў даных аб поўнай колькасці інвалідаў. Ні па ўсяму СССР, ні па рэспубліках.

Скажам, называлася колькасць інвалідаў Айчыннай вайны—яна пакінула мільёны скалечаных. А вось пра тое, колькі ж усіх інвалідаў, гэта значыць, і «цывільных»—ані слова. Чаму б гэта? Сакрэт? Толькі з цягам часу я зразумеў, што гэта сапраўды сакрэт. І не абы-які—дзяржаўнай важнасці. Бо калі будзе названа колькасць інвалідаў, ды яшчэ на тысячу чалавек насельніцтва, адразу ж многае стане зразумелым з таго, як, у якіх умовах жывуць і працуюць людзі ў краіне «развітога сацыялізму». А калі б яшчэ можна было параўнаць з той жа самай лічбай у іншых краінах... Так што сакрэт быў невыпадковы.

Палітыку ўлад у адносінах да праблем інвалідаў можна было б ахарактарызаваць так: «Не бачу, не чую, значыць, гэта не існуе». Ніводны дзяржаўны дзеяч у сваіх выступленнях нават не ўспамінаў пра інвалідаў, нібыта іх наогул не было. А ўвесь клопат дзяржавы абмяжоўваўся выплатай пенсіі, на якую, як кажуць, жыць будзеш, а больш нічога не захочаш...

**—Ці памянялася штосьці ў адносінах да інвалідаў за апошні час?**

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*



**Вольга ЭРДЭЛІ: «Калі ўпершыню вяртаешся ў родную хату пасля паўвеку расставання, яна выглядае такой малюсенькай, нібы кожны пражыты год адымаў і адымаў ад яе сваю частку. Добра памятаю кветкі. Мноства кветак, і я сярод іх...»**

(Артыкул К. Шалястовіча «Дзяўчынка сярод кветак бацькоўскага дзядзінца» змешчаны на 4-й стар.).

НА ЗДЫМКУ: госці ў Аксакаўшчыне.

БЕЛАРУСЬ — АЎСТРЫЯ

## ДА НОВАЙ ЯКАСЦІ ЎЗАЕМААДНОСІН

Завяршыўся візіт у Аўстрыю ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале з прэм'ер-міністрам Вячаславам Кебічам.

На сустрэчы з федэральным канцлерам Аўстрыі Францам Враніцкім былі дэталёва абмеркаваны пытанні міждзяржаўнага супрацоўніцтва, умацавання ўзаемных сувязей. У выніку перагавораў быў падпісаны Мемарандум аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Аўстрыйскай Рэспублікай. Важнейшым пунктам гэтага дакумента з'явілася дагаворанасць аб прадастаўленні Беларусі бязлімітнага крэдыту з мэтай рэфармавання эканомікі рэспублікі. Прадугледжваецца, што ў першыя пяць гадоў размеры гэтага крэдыту складуць 5 мільярдаў шылінгаў (каля паўмільярда долараў).

У будынку Міністэрства эканомікі Аўстрыйскай Рэспублікі быў падпісаны шэраг двухбаковых эканамічных пагадненняў, накіраваных на расшырэнне кааператыўных сувязей, развіццё супрацоўніцтва ў галіне вытворчасці прадуктаў харчавання, металургіі, энергетыкі, турызму. Выступаючы на цырымоніі падпісання дакументаў, міністр эканомікі Аўстрыі Вольфганг Шусель указаў, што аўстрыйскія фірмы праяўляюць вялікую цікавасць да Беларусі, што падпісаныя пагадненні нададуць новы імпульс гандлёвым і эканамічным сувязям паміж дзвюма дзяржавамі, адкрыюць новыя магчымасці для пошуку шляхоў павышэння іх эфектыўнасці.

Франц Враніцкі выказаў задавальненне ўзважанай палітычнай пазіцыяй Беларусі, яе імкненнем да дасягнення згоды ў межах СНД і ўмацавання сувязей як з Расіяй, так і еўрапейскімі дзяржавамі.

На прайшоўшай прэс-канферэнцыі, адказваючы на пытанні журналістаў аб ролі апазіцыі ў палітычным жыцці Беларусі, Вячаслаў Кебіч указаў, што наяўнасць апазіцыі ў дэмакратычнай дзяржаве—зусім нармальная з'ява. Я стаўлюся да Беларускага народнага фронта, больш правільна, да яго разумнай часткі, як да добрых партнёраў. Пытанне стаіць так: чыя праграма будзе лепшая, больш эфектыўная і хутчэй прывядзе да паляпшэння жыцця народа, сказаў ён.

АКТ ПРАТЭСТУ

## ЗАГІНУЎ НЕ АД РАН, А АД САБАЧАГА ЖЫЦЦЯ...

Праз паўстагоддзя пасля гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці рашыўся на самагубства абаронца цытадэлі над Бугам. Былы курсант палкавой школы 44-га стралковага палка 2-га ўзвода Цімерэн Зіматаў жыў у Сібіры, але ў апошнія гады часта прыязджаў у Брэст. Тут жа на мілай яго сэрцу зямлі кінуўся пад поезд. Як стала вядома з перадсмяротнага пісьма ветэрана, гэта быў акт пратэсту супраць дзяржаўнай палітыкі ўрада Расіі Б. Ельцына. «Калі б тады памёр ад ран, я б ведаў—загінуў за Радзіму, а вось цяпер ад сабачага жыцця. Няхай так і напішуць на магіле...»

Работнікі мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць» выканалі апошнюю волю байца гарнізона—ён пахаваны на тэрыторыі цытадэлі над Бугам.

ДНІ ШВЕЦЫІ Ў РБ



У Беларусі прайшлі Дні Швецыі, арганізаваныя Гандлёва-прамысловай палатай рэспублікі сумесна з гандлёвым аддзелам пасольства Швецыі ў Маскве і стакгольмскім банкам «Нордбанкен». За час гэтага мерапрыемства былі праведзены семінары-прэзентацыі і міні-выстаўкі шведскіх фірм, экспазіцыя, прысвечаная Альфрэду Нобелю, а таксама адбылася шырокая культурная праграма з дэманстрацыяй лепшых кінастужак гэтай скандынаўскай краіны.

НА ЗДЫМКУ: адна з выставак шведскіх фірм у час Дзён Швецыі.

ПУШЧА-«МІЛЬЯНЕРКА»

## ПАД АХОВУ СУСВЕТНАГА БАНКА

Экалагічнай сістэме беларускага «аазіса»—Белавежскай пушчы—сур'ёзна пагражаюць прамысловае забруджванне атмасферы і бескантрольны замежны турызм. Узяць пад ахову гэты нацыянальны парк выпрашыў Сусветны банк рэканструкцыі і развіцця. Ён бязвыплатна прадаставіў мільён долараў для захавання экасістэмы пушчы, Бярэзінскага і Прыпяцкага запаведнікаў.

Адзінай умовай для заключэння кантракта для членаў Сусветнага банка была наяўнасць рэспубліканскай праграмы, якая прадугледжвае поўны план дзеянняў па захаванню біялагічнай разнастайнасці лясных масіваў экасістэмы запаведнікаў.

Акрамя Беларусі, на «мільён» прэтэндавалі Расія і Украіна, аднак наша рэспубліка першая ў гісторыі СНД атрымала такі гранд (бязвыплатную дапамогу). Гэтыя грошы неабходна асвоіць да мая 1993 года. Калі праграму ўдасца ажыццявіць у тэрмін, то мы атрымаем другі гранд, але ўжо ў размеры 10 мільёнаў долараў.

ПАСТАНОВА ЎРАДА

## БЕЛАРУСКАЯ ПАЗЫКА

Урад рэспублікі прыняў пастанову «Аб выпуску Беларускай дзяржаўнай пазыкі 1993 года». Гэта першы крок нашай суверэннай рэспублікі ў галіне грашовага абарачэння, крэдыту і каштоўных папер. Раней такія пытанні былі выключна кампетэнцыяй былога Саюза ССР.

Беларуская пазыка 1993 года мае шэраг істотных пераваг перад сваімі папярэднікамі. Перш за ўсё, гэта наша ўнутраная пазыка, гарантам якой выступае ўрад незалежнай дзяржавы. Пазыка праводзіцца на выгадных для насельніцтва ўмовах—25 працэнтаў гадавога даходу. Яе аблігацыі з'яўляюцца каштоўнымі паперамі і маюць свае асаблівасці ў параўнанні з тымі, што выпускаліся раней і да якіх прывыклі людзі. Гэта—наяўнасць купонаў. Усяго іх восем—па колькасці гадоў, на працягу якіх будзе дзейнічаць пазыка.

Свабоднае абарачэнне Беларускай пазыкі пачынаецца з 1 студзеня 1994 года. Аблігацыі можна будзе і набываць, і вяртаць іх дзяржаве (праз установы Ашчаднага банка). Аднак купляць аблігацыі любы грамадзянін мае права толькі пачынаючы з 1 ліпеня будучага года.

ДЗЕЙСНАЯ СУСТРЭЧА

## МОВА — НЕ СРОДАК ПАЛІТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЫ

Адбылася сустрэча Выканаўчых рад Беларускага згуртавання вайскоўцаў і Партыі народнай згоды. Падчас сустрэчы дасягнута дамоўленасць аб супрацоўніцтве паміж БЗВ і ПНЗ у распрацоўцы канцэпцыі нацыянальнай бяспекі, заканадаўчай дзейнасці ў войску. Прадстаўнікі ПНЗ ўвайшлі ў створаны па ініцыятыве БЗВ камітэт «Вяртанне». На сустрэчы быў прыняты зварот да грамадскасці ў падтрымку дзяржаўнасці беларускай мовы, зацверджанай законам, а таксама супраць выкарыстання моўнага пытання ў палітычных мэтах.

НЁМАН У НЕБЯСПЕЦЫ

## І ЧАРНОБЫЛЬ НЕ НАВУЧЫЎ

180 тон мазуты, выпушчанай былым работнікам аб'яднання «Мостадрэў» з нікім не ахоўваемага сховішча, залілі тэрыторыю прадпрыемства і праз ліўневую каналізацыю трапілі ў Нёман. Спачатку пляму спрабавалі лакалізаваць сваімі сіламі. Толькі праз некалькі дзён, калі яна дайшла да Гродна, звярнуліся за дапамогай да ваенных. Ля вёскі Мігава яны ўзвялі пантонны мост.

Гэты мост, забіты цюкамі саломы, і стаў фільтрам для мазуты. І яшчэ ў адным пункце дакладна спрацавалі воіны. Быў перакрыты водазабор, з якога паступае шэсцьдзесят працэнтаў вады для патрэб Гродна.

— Адносіны да здарэння ў мясцовых улад абыякавыя,—сцвярджае камандзір пантанёраў Клішкоў.—Сабраць жа мазуту цяпер вельмі складана. Узровень вады ў Нёмане падае, і чорная жыжка асядае на бераг. Ствараецца ўражанне, што гэта мала каго трывожыць. Відаць, нічому не навучыў нас Чарнобыль. Усё спадзяёмся на ўдачу.

У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ «РАДЗІМА»



З 14 па 25 верасня, як і штогод, таварыства «Радзіма» праводзіла курсы ўдасканалення кваліфікацыі кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці замежных суайчыннікаў. Абнавіць і ўзбагаціць свае веды былі запрошаны нашы землякі з Польшчы і Нідэрландаў, сапраўдныя прыхільнікі і папулярызатары багатай скарбніцы беларускай культуры. Заняткі праводзіліся на базе і сіламі Інстытута праблем культуры Міністэрства культуры РБ. Вучэбная праграма, якая складалася з тэарэтычнага і практычнага раздзелаў, прадугледжвала самую разнастайную тэматыку: ад лекцый па гісторыі беларускай культуры, фальклору, выяўленчаму мастацтву, тэатру, музыцы, рэлігіі і г. д. да практычных заняткаў па развучванню і пастаноўцы святочна-абрадавай праграмы «Сонцазварот». Добрым наглядным падмацаваннем да акадэмічнай часткі заняткаў стала наведванне рэпетыцый галоўных харавых калектываў Беларусі.

Ёсць усе падставы разлічваць, засноўваючыся на водгуках і ацэнках як арганізатараў, выкладчыкаў, так і ўдзельнікаў, што такая форма навучання на самай справе прынесла карысць усім зацікаўленым бакам і заслугоўвае працягу і надалей.

НА ЗДЫМКУ: выступаюць удзельнікі курсаў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ У Бабруйскім гарадскім цэнтры занятасці насельніцтва ўжо зарэгістравана каля дзвюх тысяч беспрацоўных. Больш паловы з іх—жанчыны.

◆ Праграма прыватызацыі на 1992—1993 гады муніцыпальнай уласнасці намечана ў Мінску. Асноўная яе форма—арэнда з выкупам аб'ектаў або стварэнне акцыянерных таварыстваў. Пакуль прыватызаваны 61 аб'ект з 273, запланаваных праграмай.

◆ Скончыліся летнія канікулы ў артыстаў мінскіх тэатраў. Операй С. Пракоф'ева «Вайна і мір» свой юбілейны (60-ты) сезон адкрывае галоўная музычная сцэна рэспублікі—Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета.

◆ «Жыве Беларусь!»—так называецца выстаўка, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, якая адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі. Гэта бунейшая за апошні час экспазіцыя, якая сабрала лепшыя работы мастакоў усіх жанраў і стыляў. Выстаўку плануецца зрабіць традыцыйнай і штогоднай.

◆ На Віцебшчыне ля Шуміліна знойдзены астанкі невядомай жывёлы. Вучоныя мяркуюць, што яны належаць маманту. Канчатковыя высновы будуць зроблены пасля вывучэння касцей гэтай жывёлы.

## «АКНО» — ЯК СРОДАК САЦЫЯЛЬНАЙ РЭАБІЛІТАЦЫІ ІНВАЛІДАЎ

# ВЫЖЫВЕМ




(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Шчыра кажучы, карэнных змен я не адчуваю. Ну, у некаторай ступені памянялася атмасфера. Дзякуй Богу, усе ўбачылі, прызналі, што інваліды ў нас ёсць, што іх многа, што яны—самая абяздоленая частка грамадства, што ім трэба дапамагаць. І гэта ўжо нямала. Аднак у той жа час узнікла пытанне: дзе ўзяць грошы для гэтай дапамогі? Сродкаў у дзяржавы не так ужо і багата, да таго ж інфляцыя з'ядае і тое, што ўдаецца выкраіць.

Але трэба сказаць, што справа не толькі ў гэтым. Неяк вясной адна афіцыйная асоба выказалася са здзіўляючай шчырасцю: «Ну што вы ўсё пра інвалідаў ды інвалідаў! Тут пра здаровых трэба ў першую чаргу клапаціцца!»

Гэтая катэгорыя чыноўнікаў добра вядомая. Магу з упэўненасцю сказаць, што калі справа дойдзе да здаровых, ён з такім жа запалам усклікне: «Ну што вы ўсё пра здаровых! Тут за інвалідаў галава баліць!»

Трэба заўсёды памятаць: якія б добрыя і гуманныя законы і пастановы ні прымаліся, якія б фонды, спонсары, папячыцелі ні прыцягваліся да гэтай справы, усё—разумееце, усё!—залежыць ад чалавека. Ад чуласці, спагадлівасці, дабрыні таго, хто непасрэдна сутыкаецца з жыццём і праблемамі інвалідаў. Аддае ён гэтаму душу і сэрца—становішча, можа, не так хутка, як хацелася б, але будзе паляпшацца. Калі ж ён толькі «прымазаўся», то нічога добрага не чакай, бо для яго ўсе вашы турботы-клопаты разам з пакутамі «да лямпачкі», у яго свой інтарэс.

**— Я памятаю, якая ўсчалася валтузня вакол пытання: стварыць Таварыства інвалідаў СССР ці не? Апаненты з высокіх кабінетаў даказвалі: маўляў, навошта патрэбна такое таварыства, ёсць жа Міністэрства сацыяльнага забеспячэння — яно і так дбае пра інвалідаў і пенсіянераў.**

— Ага, на якое ліха ім было гэтае таварыства! Таварыства абяздоленых, пакрыўджаных лёсам.

На 1 студзеня 1992 года ў Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 348 тысяч інвалідаў. Чалавек, які ўпершыню чуе гэтую лічбу, робіць круглыя вочы і з недаверам пытаецца: калі іх так многа, то дзе яны? Кожны можа назваць двух-трох, каго ён асабіста ведае, ну яшчэ, скажам, пяцьдзесяць, каго бачыў дзе-небудзь за мінулы тыдзень, але ж сотні тысяч?! Скажыце, дзе яны?

Дзе? Прапаную невялікі эксперымент. Няхай кожны, хто будзе чытаць гэтыя радкі, паспрабуе ўспомніць, колькі інвалідаў на калясцы ён бачыў за гэтае лета на вуліцах свайго горада. Я на ўвесь Мінск, у якім жыве больш за 1 600 000 чалавек, сёлета бачыў толькі аднаго—гэта мой намеснік па часопісу Рыгор Галіцкі. Мо, скажаце, іх, калясачнікаў з паралізаванымі нагамі, наогул няма? Дык я магу вам расказаць пра інваліда, які чатырнаццаць гадоў чакаў сваёй чаргі на каляску.

Дарэчы, тым, у каго яна ёсць, што ім рабіць на вуліцы? Ні ў магазін, ні ў цырульню, ні ў кіно, ні на выставу —нікуды калясачнік не можа трапіць, бо ўсюды прыступкі і няма нават просценькага пандуса, па якім можна было б уз'ехаць. А бардзюры тратуараў—паспрабуй перабярыся цераз іх на калясцы! Праўда, некалькі гадоў назад сям-там зрабілі з'езды з тратуараў, але ж гэта не для інвалідаў, а для машын, што падмятаюць.

А пратэзы?! Калі пакалечылі хлопцаў у Афганістане, дык пратэзіраваць іх пасылалі за кошт розных фондаў і спонсараў за мяжу, нават на Кубу, бо нашы пратэзы больш нагадваюць прылады для катавання. Толькі мы, старое пакаленне, каго так або інакш зачапіла вайна, можам цягаць на сабе «вырабы» нашых пратэзных заводаў.

Ці варта пасля гэтага пытаць, дзе яны, нашы інваліды?

А ёсць жа яшчэ адзін бок іх жыцця. Інваліднасць—жорсткая, бязлітасная рэч. Я зараз кажу не пра фізічныя пакуты, якія суправаджаюць яе. Я пра іншае. Ты—чалавек, ты такі ж, як усе. Розумам, душою, жаданнямі, імкненнямі—такі ж. А магчымасці твае...

Вось гэтая супярэчлівасць—бадай, самае цяжкае, што нясе з сабою інваліднасць. Болю, горычы, пакутаў дадаюць яшчэ і адносіны здаровых людзей да інвалідаў. Што я маю на ўвазе? Скажам, ёсць у чалавека які-небудзь фізічны недахоп, напрыклад, няма рукі, нагі або абедзьве нагі паралізаваны (тут варыянтаў безліч), то гэта аўтаматычна пераносіцца людзьмі і на яго інтэлект. Працэй кажучы, у вачах пераважнай большасці людзей ён—«поўны» інвалід. Зразумела, гэта выяўляецца не так адкрыта, як я кажу, але такая «сувязь» паміж скалечаным целам і інтэлектам у адносінах да інвалідаў існуе і адчуваецца вельмі часта.

Калі ж пры больш блізкім знаёмстве раптам аказваецца, што інвалід—разумны, цікавы, адукаваны, з шырокім кругаглядам чалавек, а тым больш, калі ў яго ёсць здольнасці да творчасці, калі ён дабіваецца прыкметных поспехаў, то гэта выклікае шчырае здзіўленне: «Глядзі ты! Ніколі б не падумаў!..»

**— Быццам і пахвалілі, ацанілі высока, а на самай справе...**

— Можна, вядома, сказаць, што гэта ад наіўнасці, ад глупства, ад неразумення, ад душэўнай слепаты. Але як жа гэта балюча і крыўдна чуць чалавеку.

Не, не трэба жалю, шкадавання, слязлівага спачування і ўсяго такога іншага. Патрэбна павага, разуменне, дабрыня і душэўная далікатнасць. Перш за ўсё трэба памятаць: перад вамі Чалавек.

Дык вось, аўтары і чытачы нашага часопіса—гэта тыя, хто ведае, што ніколі не прыйдзе збавенне ад бяды і пакут. Кожны з іх разумее, што ён ніколі не ўстане з каляскі і не прабяжыць па росным лузе, не адкіне прэч непатрэбныя больш мыліцы, не саскочыць сонечнай раніцай з ложка.

І тым не менш яны імкнуцца жыць, а не існаваць. Жыць паўнацэнна, паўнакроўна. Як бы цяжка ні было, ім таксама патрэбны і радасць пазнавання свету, і пачуццё еднасці з людзьмі, прыгажосць празаічнага або вершаванага радка, і празрыстая глыбіня думкі, трапнае назіранне, і водгук другога сэрца.

**— І, як я разумею, «Акно» ў нейкай ступені і накіравана на тое, каб дапамагчы ім спазнаць гэта?**

— Менавіта так. Возьмем просты прыклад: інвалід піша вершы або прозу. Для яго гэта магчымасць, патрэба выказаць свае пачуцці, праявіць свае творчыя імкненні. А хто, акрамя вузкага кола сяброў або знаёмых, ведае пра гэта, чытаў або слухаў яго творы? Творчасць жа—любая—гэта яшчэ і спосаб сувязі з людзьмі, са светам.

**— Мне ўспомнілася, якое жорсткае пакаранне было прызначана сасланаму Тарасу Шаўчэнку: яму было забаронена пісаць, ды што там пісаць, забаранілі нават мець паперу і аловак. Ці ж можа быць горшае пакаранне для творцы?**

— З інвалідамі, здольнымі, таленавітымі, вельмі часта здараецца тое ж самае. Ці многа знойдзецца прыкладаў, калі, вобразна кажучы, чалавек з мыліцамі змог прабіцца ў свет, у друк, на старонкі вялікай прэсы? Таму і стварылі інваліды свае рукапісныя часопісы, перапісваліся, перапраўлялі з канца ў канец нашай краіны адзін другому свае вершы, апавяданні.

Але ж ёсць у іх творчасці прыклады высокай паэзіі, цудоўнай прозы. Ды і чаму **толькі інваліды павінны ведаць сваіх братоў-творцаў?** Вось, напрыклад, верш інваліда 1-й групы Анатоля Прохарава. Мы змяшчаем яго ў другім нумары «Акна».

**РОДНАЯ МОВА**

**Тут мова мая,**
**а словы—як зоры.**
**Сабрала яна**
**усіх вясёлак узоры.**
**Як сонца прамністае—**
**льецца і льецца.**
**Матчынай**
**Мова мая завецца.**
**Ільну ў ёй блакіты**
**і колас наліты,**
**І росных, мурожных**
**лугоў аксаміты.**
**Хто любіць матулю,**
**Жытнёвае поле,**
**Той мову сваю**
**не забудзе ніколі.**

Хіба ж гэтыя радкі не вартыя таго, каб іх прачыталі ўсе, хто шануе, любіць сваю зямлю, свой народ, сваю мову?

**— Цалкам згодна, яны вартыя таго, каб з імі пазнаёмілася як мага больш людзей.**

— Мы робім часопіс з надзеяй, што думкі, мары, увасобленыя ў радкі слоў, як залатыя карункавыя нітачкі паразумення, звяжуць сэрцы аўтараў і чытачоў, і пройдзе да іх, перальецца ўсё, што збірала, назапашвала душа творцы, і ў некага шырэй адкрыюцца вочы, і гляне ён на жыццё больш ясным і светлым позіркам, убачыць, што не знікла, не згінула ў ім прыгажосць.

Між іншым, хачу сказаць, што хоць наш часопіс у пэўным сэнсе прызначаны для інвалідаў, часопісам-інвалідам, калі можна так сказаць, ён не будзе. У нас ёсць добрыя матэрыялы, цікавыя аўтары, у чым дарэчы, можа пераканацца кожны, хто возьме ў рукі першы нумар, а хутка і другі

**— Не ў самы лепшы час вы адважыліся стварыць часопіс. Усе перыядычныя выданні перажываюць неймаверныя цяжкасці, многія закрываюцца.**

— Што ж, час не выбіраюць. Як і долю. Толькі калі мы пачнём чакаць больш спрыяльнага часу, то можам і не дачакацца. А мы жывём сёння. І адкласці сваё жыццё на заўтра не можам. Спадзяюся, што не знойдзецца нікога, хто б сказаў пра інвалідаў: «Бач, толькі часопіса ім не хапала». Няхай спачатку пачытае часопіс.

Час, сапраўды, складаны: інфляцыя, неймаверная дарагоўля, цана на паперу, на паліграфію такая, што вочы на лоб лезуць. Добра, што БЕЛІНФАРМ, наш грамадскі апякун, падараваў нам паперу на першы і другі нумары—зямны паклон ім за гэта. Дзякуй усім, хто са спагадаю ставіцца да нас, думаю, што яны дапамогуць нам выжыць. А мы павінны выжыць, таму што патрэбны людзям.

**— Я думаю, што ўсё ж такі галоўная мэта часопіса — дапамагчы людзям пераадолець адзіноту.**

— Не толькі. Звычайна фізічна здаровыя людзі бачаць у інваліднасці ў першую чаргу фізічныя пакуты. Нават бытавыя рэчы, тое, што здаровы чалавек робіць без якога-небудзь напружання, ад інваліда часам патрабуе неверагодных намаганняў. І гэта ў першую чаргу кідаецца ў вочы.

Але куды горшыя пакуты душы. Чалавек—істота грамадская, ён нармальна жыве толькі сярод людзей, толькі еднасць з усімі людзьмі дае яму сілы. А тут іншы раз вакол толькі чатыры сцяны, адарванасць ад жыцця, абмежаванасць уражанняў і кантактаў, адчуванне сваёй непатрэбнасці, адсутнасць жыццёвай мэты. У такіх умовах проста жыць з адзіным жаданнем не апусціцца, не згубіць самога сябе, не згубіць душу—гэта, згадзіцеся, патрабуе вялікай волі, настойлівасці. А калі чалавек яшчэ і працуе над сабою, займаецца творчасцю, аддае іншым плён сваёй працы, то такое з поўным правам можна назваць подзвігам. Такі подзвіг—вельмі моцная маральная падтрымка для слабейшых. Ён, як сяброўская рука, падтрымлівае ў цяжкія хвіліны, дае магчымасць адчуць, што ты таксама можаш знайсці сваё месца, таксама можаш стаць карысным, патрэбным для іншых. Паверце, чыйсьці прыклад у нашым жыцці мае куды большае значэнне, чым мы думаем. І я спадзяюся, што такіх добрых прыкладаў мы ў нашым «Акне» ўбачым нямала.

**— Што б вы хацелі асабіста ад сябе сказаць сваім сябрам-інвалідам, ды і здаровым людзям таксама?**

— Ва ўсім свеце інваліднасць—цяжкая доля, якая, між іншым, можа напаткаць любога. Сёння ты здаровы, а заўтра, скажам, трапіў у аўтамабільную катастрофу, нешта здарылася на прадпрыемстве, захварэў—і ўсё: няма больш тваёго здароўя, сілы, і, дзякуй Богу, калі ты можаш жыць без чыёйсьці пастаяннай дапамогі, догляду.

Але трэба помніць, што ты чалавек—і гэта галоўнае. Тое, што ў цябе няма рукі ці нагі, або штосьці-небудзь горшае з табою здарылася—гэта яшчэ не прычына для таго, каб быць сапраўды інвалідам.

Беражы, захоўвай у сабе чалавечае, гэта дазволіць табе перамагчы ўсё, што нясе з сабою калецтва, фізічныя недахопы. А чалавечае ў чалавеку — годнасць, сумленне, справядлівасць, спагадлівасць, шчырасць, таварыскасць, светлы розум. Зрэшты, тут я нічога новага не адкрываю, пра ўсё гэта непараўнальна лепш і дакладней сказана ў Вялікай кнізе—Біблії. Толькі інваліду трэба ўсё гэта больш паслядоўна і пераканана суадносіць са сваім жыццём, са сваім лёсам.

Дарэчы, з другога нумара пачынаем друкаваць Евангелле. Мы адчуваем неабходнасць у тым, каб нашы чытачы пазнаёміліся з першакрыніцай агульначалавечай культуры.

Наш часопіс, як было задумана ў Таварыстве інвалідаў Рэспублікі Беларусь, павінен з'явіцца сродкам сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў. Можа, не кожнаму ясна, што гэта такое, таму я скажу, як сам разумею задачу, што стаіць перад намі.

Мы расчынілі наша «Акно» для людзей, якія не здаюцца на волю лёсу, не скарыліся долі, якая выпала ім.

Мы расчынілі «Акно», каб праз яго інваліды маглі паказаць усім— падкрэсліваю гэта—**усім** людзям, што яны зусім не горшая частка нашага грамадства, што ў інвалідаў такая ж прыгожая, чулая да ўсяго добрага і чалавечага душа, што інваліды—такія ж здольныя, таленавітыя, працавітыя людзі, толькі вось жыццё ў іх, на жаль, вельмі нялёгкае.

Мы расчынілі наша «Акно» і для здаровых, дужых, для тых, да каго лёс не павярнуўся спіною, каб яны, адарваўшыся на момант ад сваіх сённяшніх клопатаў і праблем, зазірнулі ў гэты няпросты свет, убачылі, разгледзелі, спазналі тое, што існавала і існуе па-за іх увагай. Каб ім адкрылася штодзённая непаказная мужнасць, душэўная прыгажосць, светлы розум і глыбокая перакананасць, што б ні здаралася, якая б ні выпала доля, чалавек павінен заставацца Чалавекам.

Іншага выйсця няма.

**Вось і ўсё.**

**Адзінае, што магу дадаць: хай чытач не здзіўляецца адналькавасці прозвішчаў інтэрв'юіруемага і інтэрв'юера — размаўляла я са сваім бацькам.**

Вераніка ЧАРКАСАВА.

# ДЗЯЎЧЫНКА СЯРОД КВЕТАК БАЦЬКОЎСКАГА ДЗЯДЗІНЦА

Вынятка даўно мінулага дзяцінства, змешчаная на 1-й стар., застыла ў свядомасці жывым вобразам, каб цяпер ажыць і разварушыць душу ўспамінамі і сустрэчай з Бацькаўшчынай. Ажыць ізноў на сваім падворку вёскі Прапарышча Докшыцкага раёна, куды Вольга Эрдэлі прыехала апошнімі вераснёўскімі днямі, у час, калі восень зморана разгінае натруджаную на бульбяным полі спіну. А першы раз ад'язджала, васьмігадовай у 1944 годзе, калі фронт рухаўся ўжо ў адваротным напрамку: бацькі вырашылі перабрацца ў Польшчу.

— І мы апынуліся разам з людзьмі, якіх вывозілі прымусова. Немцы ўсіх зацягнулі ў Нямеччыну. Працавалі на ваенным авіязаводзе. Жылі разам з палоннымі партызанамі. Насілі на працу кайданы, дзеравянныя чаравікі,—неяк асцярожна, быццам баючыся выклікаць са страшнага мінулага і той стук дзеравяшак аб бетонную падлогу, і знясільваючы голад і смерць,—расказвала госця з Нью-Йорка.—Бацька не вытрымаў жудасных варункаў—памёр. Пасля перамогі наша сям'я апынулася ў ангельскай зоне. Паўстала пытанне, што рабіць далей. Успомнілі, што мелі цётку ў Амерыцы. Яна выехала туды ў 1913 годзе на заробкі, там і засталася. Далі аб пошуку сваячкі ў газеце аб'яву, па якой нас і знайшлі.

З тае пары жыве Вольга Эрдэлі ў Злучаных Штатах. Вывучылася, працавала перакладчыцай у ААН, падзяліла лёс з мужам Алегам Эрдэлі, выхадцам з украінскай сям'і.

— Хоць і аселі мы надоўга ў Амерыцы, але імкнуліся не забыццам ні сваіх каранёў, ні мовы. Усё гэта так глыбока ў сэрцы адлажылася...

...Не ведаю, як каму, а мне няпроста кантактаваць з амерыканскімі беларусамі. З аднаго боку, не надта тактоўна змушаць чалавека рабіць параўнанні, напрыклад, эканамічнага парадку, бо ўсім удзельнікам гутаркі добра вядома, што параўноўваюцца рэчы непараўнальныя. Мала таго, што Амерыку мы так і не дагналі, яна зусім знікла ўдалечыні. З другога—гэты чалавек, жывучы на супрацьлеглым кантыненце, лічыць за гонар і абавязак захоўваць сваю беларускую існасць, а твайму суграмадзяніну тут на Радзіме яна так муляе, так вочы коле, што гатоў за грудкі ўзяцца...

Тым не меней, сустрэча з родным краем адбылася...

— Адбылася, канешне. Вёска падалася запушчанай. Такое ўражанне, што людзі чакаюць нечага ці некага, хто прыйдзе нешта падрамантуе, падфарбуе, зробіць. Наша сядзіба засталася. Праўда, хата ў зямлю ўрасла, але там яшчэ жывуць.

На бацькоўскім дзядзінцы, усхваляваная спатканнем з ім, задумала спадарыня Эрдэлі зрабіць здымак на памяць. І акурат у той момант з'явіўся ў кадры строгі мужчына з партфелем. Маўляў, хто такія, хто даў права здымаць прыватную ўласнасць? А можа вы шпіёны? Дакументы... Вольга прад'явіла яму візітную картку аднаго з супрацоўнікаў таварыства «Радзіма», англійскі тэкст якой адказная асоба пачала ўважліва разглядаць. «А-а, вы з Польшчы,—мужчына адразу памякчэў і перайшоў на памяркоўна-дазвалялыны тон,—ну тады здымайце, здымайце...»

Як я высветліў з адказаў на свае пытанні, адносіны з Айчынай набываюць для ґасцей, апрача духоўнасці, і практычны змест. (Гэтая тэма ўздымаецца шмат кім з землякоў з самых розных дзяржаў планеты). Многія, асабліва пенсіянеры, хацелі б вярнуцца дамоў на пастаяннае пражыванне, каб была дамоўленасць паміж Беларуссю і ЗША аб пенсійным забеспячэнні, прасцей кажучы, аб пераводзе пенсій. Тым больш, што вялікая частка такіх, як сужонства Эрдэлі, толькі што дасягнулі пенсійнага ўзросту і валодаюць і вопытам, і сіламі, каб плённа служыць і служыць на карысць Бацькаўшчыны і яе грамадства.

Па запрашэнню таварыства «Радзіма» і ў суправаджэнні першага намесніка праўлення гэтай арганізацыі Мікалая Васілёнка Вольга і Алег Эрдэлі наведалі клініку НДІ радыяцыйнай медыцыны ў Аксакаўшчыне. Не апошняе месца займаў тут і прафесійны інтарэс. Спадар Эрдэлі—урач-тэрапеўт, працуе ў фірме «Ампелмед», якая займаецца аднаўленнем медыцынскага абсталявання і яго продажам па нізкіх цэнах пры добрай якасці тавару. Фірма зацікаўлена ва ўсталяванні ўзаемавыгадных сувязей з нашай рэспублікай.

Паездка ў Аксакаўшчыну здзяйснялася ў кампаніі з яшчэ адным сужонствам нашых замежных суайчыннікаў, на гэты раз з Галандыі. Іаганес і Кацярына ван Онзены займаліся на курсах павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, якія праводзіла таварыства «Радзіма», і засталіся на некалькі дзён у Мінску, каб перадаць памянёнай клініцы шпрыцы аднаразовага карыстання.

Госці мелі грунтоўную і працяглую размову з намеснікам галоўнага ўрача клінікі Уладзімірам Зазыбам, падчас якой ён расказаў аб хваробах шчытападобнай залозы ў дзяцей, экалагічна неспрыяльнай сітуацыі на Беларусі, праблемах дзейнасці клінікі, такіх, як недахоп рэактываў і г.д. Зрабілі невялікую экскурсію па лабараторыях і аддзелах, пазнаёміліся з маленькімі пацыентамі. Атрымалі спіс найбольш неабходнага абсталявання і з цяжкім сэрцам ад убачанага і пачутага вярталіся ў Мінск.

— Вось вы гаворыце, што ў вас валюты не хапае лячыць людзей. А вы паглядзіце,—запрашала мяне паглядзець Кацярына ван Онзен,—што ў вас робіцца ў гасцініцы «Інтурыст». Турысты не паспеюць выйсці з аўтобуса, як іх апаноўваюць нейкія асобы, што крычаць: «Гэйндж, гэйндж». І пайшоў абмен, пацякла тая валюта ад іншаземцаў у кішэні дзялкоў-нуварышаў. А побач міліцыя стаіць, спакойна на ўсё пазірае. Гэта ж сорамна. Гэта ж антыпрапаганда вашай новай і незалежнай дзяржавы. Супрацоўніка таварыства на ўваходзе не прапускаюць у гатэль, бо пасведчанне забыўся, а прастытуткі, людзі з закаўказскім абліччам сноўдаюць туды-сюды бесперашкодна...

Я не пайшоў глядзець. Усяго ўжо наглядзеліся. У нашым дэмакратычным жыцці вельмі мала ёсць кветак. Намнога больш пустазелля, якое можа заглушыць усё, што не з'яўляецца грашыма. І няёмка перад Вольгай Эрдэлі: пачынаў артыкул з сентыментальнага, а скончыў не надта прыгожай прозай быцця...

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# ЦІХІ, ЦЯРПЛІВЫ І ЧУЛЫ НАРОД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

хто-небудзь з польскіх аўтараў другой паловы XIX—пачатку XX стагоддзяў, пазнаў беларускі этнас. Ён вывучаў не толькі традыцыйную духоўную і матэрыяльную культуру беларусаў, але даследаваў яшчэ флору і фауну Беларусі, збіраў кнігі, гістарычныя дакументы са старых магнацкіх архіваў, творы жывапісу і графікі, рабіў раскопкі курганоў, старажытных паселішчаў і могільнікаў, збіраў матэрыялы да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі.

Беларускі народ, на думку вучонага, найбольш няшчасны і найбольш пакрыўджаны лёсам сярод славянскіх народаў. На самай справе Вялікае княства Літоўскае (асноўны ваенны і эканамічны патэнцыял якога складалі беларускія землі) вымушана было весці на працягу XIII—XVIII стагоддзяў войны з суседнімі і не толькі суседнімі дзяржавамі, або на яго тэрыторыі ў пэўныя перыяды гісторыі адбываліся ваенныя баталіі паміж войскамі розных гаспадарстваў. З XVII—XVIII стагоддзямі звязаны і вялікія сацыяльныя змены ў класавай структуры беларускага народа. У гэты перыяд адбывалася апалячванне беларускай арыстакратыі і ішло выцясненне беларускага гандлёва-прамысловага класа яўрэйскім.

Пералічаныя вышэй і некаторыя іншыя фактары адмоўным чынам адбіваліся на эканоміцы Беларусі, яе сельскай гаспадарцы, колькасці насельніцтва, матэрыяльным становішчы і культурным яго ўзроўні. А тут яшчэ малаўрадлівая зямля, якая не вельмі ўдзячная была свайму апрацоўшчыку: беларусу даводзілася шмат працаваць, але вынікі сялянскай працы не заўсёды апраўдвалі яго надзеі. Такім чынам, нашаму продку на працягу доўгага часу трэба было весці цяжкую барацьбу за сваё існаванне, усё жыццё праводзіць у працы, каб пазбегнуць беднасці, што прывяло да практычнага ведання ім жыцця і навакольнага асяроддзя.

Не заўсёды спрыяльныя прыродна-кліматычныя ўмовы, бясконцая праца, недахоп ежы і слабая яе каларыйнасць адмоўна адбіліся на знешнім выглядзе і энергічнасці мясцовага жыхара. Таму этнограф пры характарыстыцы вонкавага выгляду беларусаў адзначае, што яны ў фізічных адносінах непрыкметныя, каржакаватыя, сярэдняга росту, не вельмі стройныя. І хоць у рухах беларус, на думку Федароўскага, млявы, лянівы і павольны, аднак у працы ён упарты, настойлівы, цягавіты, у словах і дзеяннях прадбачлівы, добрасумленны. Станоўчымі якасцямі беларуса з'яўляюцца таксама прыстойнасць, спагадлівасць, вялікая сіла волі, нецярпімыя адносіны да хвалькоў і задавак.

Нашаму народу ўласцівыя кемлівасць, назіральнасць і развітая інтуіцыя, або, як выказваецца этнограф, унутранае бачанне, прадчуванне. Яна, інтуіцыя, знаходзіцца ў прамой сувязі, на нашу думку, з надзвычайнай уражлівасцю мясцовых жыхароў, асабліва жанчын, і набывае ў іх часам крайнія формы. У сваю чаргу надзвычайная чуллівасць, уражлівасць, на наш погляд, параджае перабольшванне, уласцівае беларусам. Аднак і гэтай сваёй якасцю, піша вучоны, яны нярэдка ўмела могуць карыстацца, асабліва тады, калі ім трэба чаго дабіцца.

Беларусу, як і іншым славянскім народам, характэрны не толькі любоў да роднай зямлі, але і павага да звычаяў, традыцый і рэлігій іншых народаў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі. Ён, як і літовец, дамасед і ў прыхільнасцях сваіх пастаянны і верны, хоць да людзей і не прывязваецца з лёгкасцю.

Прадбачлівы і сур'ёзны беларус, клапоцячыся пра сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей, падобна літоўцу, робіць запасы. Ён любіць часта паўтарцаь прыказку: «Без запасу гіне чалавек без часу».

Паляк і беларус — гасцінныя людзі, аднак гасціннасць першага і другога адрозніваюцца паміж сабой. У беларускага селяніна, на думку этнографа, няма ні кроплі сардэчнасці, таварыскасці мазура, бо ён «заўсёды задумлівы і на свет глядзіць песімістычна... і толькі таму любіць сустракацца з людзьмі, каб задаволіць свой інтарэс і выказаць свае крыўды». Разам з тым беларус не пазбягае гутарак, прымае ўдзел у вяселлях, хрэсьбінах, адведках, вечарынках (моладзь). Аднак ён ведае этыкет, сароміцца людзей і ў іх шмат часу не адбірае. Тут хаты, як заезды, не стаяць вечна адчыненымі, а суседзі, калі і заходзяць адзін да аднаго, то звычайна па нейкай справе.

Федароўскі зрабіў цікавую заўвагу наконт адносін у польскай і беларускай сем'ях. Калі польскую сям'ю звязвае пераважна каханне, то беларускую, нягледзячы на вялікую прывязанасць маці да сваіх дзяцей, — страх і павага да бацькі. Вучоны пахвальнае слова сказаў у адрас беларускіх маці, адзначыў пры гэтым, што яны ідэальныя (праўда, маюць адну загану: надзвычай песцяць сваіх дзяцей), а дзяўчаты, хоць какетлівасцю не вылучаюцца, не менш пастаянным пачуццём адорваюць сваіх выбраннікаў.

Адной з характэрных рыс беларуса з'яўляецца асцярожнасць, якую этнограф назваў выдатнай. «Мазур мае рагатую (задзірыстую. — **А. Л.**) душу, а беларус, я так скажу, мешкаватую, чахольную, і ў гэтым іх розніца», — адзначае Федароўскі. Беларус заўсёды ўступчывы і ціхі, усё прымае ў маўчанні. «Ён любіць мір і пазбягае ўсякай барацьбы і так заўсёды робіць, радзіць, паступае, каб не выклікаць зла», — піша вучоны. Гэта рыса характару дала падставу некаторым аўтарам XIX — пачатку XX стагоддзяў сцвярджаць, што беларус быццам пазбаўлены жорсткасці і помслівасці. Федароўскі крытычна аднёсся да падобных выпадаў. Ён упэўнена сцвярджае, што жыхар гэтай зямлі, маючы вялікую долю літоўскай крыві ў сваіх жылах, таксама можа адплаціць за нанесеныя яму крыўду і кроўныя абразы, але быццам бы толькі тады, калі можа ворага ўмярцвіць з поўнай беспакаранасцю і лёгка, як малінку. Сцвярджэнне этнографа асабліва не супярэчыць цвярозаму погляду народа на самога сябе. Вось, напрыклад, што гаворыць 74-гадовы пенсіянер з Вілейшчыны, які ў даваенны час служыў у польскім войску: «Паляк хоць і задзірысты, аднак беларус яго не баіцца. Беларус вельмі цярплівы, церпіць да апошняга. І калі яго хто пакрыўдзіць, і справа даходзіць да сваркі, бойкі, то беларус хоць каму (у тым ліку паляку, літоўцу, украінцу.—**А. Л.**) дасць адпор».

Федароўскі падкрэслівае, што сіла валодання сабой і духоўная раўнавага ў беларусаў такія, што забойствы па розных прычынах і ўсялякія бойкі ў іх вельмі рэдкія, а самазабойствы, калі і здараюцца, то амаль заўсёды па прычыне матэрыяльных страт.

Беларус, на думку этнографа, не хлусіць так, як мазур, але справы ўнікліва скрывае ці пра іх не дагаворвае. Ён не згодзен з тымі, хто прыпісвае беларусам ліслівасць, што ў такой ступені распаўсюджана, на яго думку, у Павіслінні. На Беларусі яна рэдка сустракаецца, а ліслівуцамі на гэтай зямлі пагарджаюць, не любяць і пазбягаюць іх.

Падкрэсліваючы невысокую рэлігійнасць беларуса, Федароўскі адзначае, што ён «тым адрозніваецца ад паляка, што ў яго душы рэлігійнай страсці няма ні кроплі... Беларус Бога баіцца, паляк яго любіць; для апошняга тварэц з'яўляецца перш за ўсё мяккасардэчным бацькам, для беларуса таксама такім, але перш за ўсё справядлівым суддзёй, гаспадаром свету, які нястомна змагаецца з дэманічнай сілай, якой ён не менш, а, бадай, больш баіцца, чым самога Бога». Аўтар падкрэслівае, што вера гэтага народа вельмі глыбокая, хоць, як нідзе, мала грунтуецца тут на тым, чаму вучыць царква.

У той жа час вучоны адзначае, што ўся вера мясцовага жыхара, якая на працягу жыцця была яго адзінай пуцяводнай зоркай, утрымлівае беларуса ад шматлікіх заган, памяшчаецца не ў катэхізісе ці малітоўніку, а ў няпісанай кнізе. У гэту кнігу, на яго думку, калі б хто-небудзь яе стварыў, увайшло б некалькі тысяч так званых перажыткаў, забабонаў, з якіх ужо смяюцца, а для яго з'яўляюцца самымі шаноўнымі дагматамі веры. «Гэта яны, як нідзе ўжо да гэтага, у сэрцы і памяці беларуса глыбока сядзяць, яны з'яўляюцца яго кнігамі закона і мудрасці, кодэксам паводзін, яго спрадвечнай «установай» (г. зн. звычаёвым правам. — **А. Л.**), якая яго таксама, як талмуд яўрэя, апутвае... Толькі з гэтага кодэкса, з гэтых даўніх дагматаў веры, канечне, не без літоўска-украінскіх налётаў, прабіваецца ўся своеасаблівасць гэтага народа, таксама арыгінальнасць, гэта яны разам з вуснай літаратурай (вусна-паэтычнай творчасцю. — **А. Л.**) захавалі яго ад канчатковай пагібелі і яны, што з'яўяюцца надзвычай знамянальнай рэччу, заключаючы наймацнейшае сканцэнтраванне праязычніцкай мудрасці, сведчаць, што па сённяшні дзень гэты сімпатычны ў многіх адносінах народ з'яўляецца з усіх блізкародных народаў бадай што самым маральным, найменш характэрны яму злачынствы».

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ.**

(Заканчэнне будзе).

# МОЙ ЖЫЦЦЯПІС

Эмілія КАЗАК – КАЗАКЕВІЧ



Пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў у 1932 годзе я адразу пайшла працаваць на дзіцячую пляцоўку. Яна была арганізавана настаўнікамі беларускай пачатковай школы на Чырвонай Дзвіне для вучняў малодшых клясаў і іх маленькіх братоў і сястрычак, якім не было з кім застацца ў хаце. Дзеці амаль увесь дзень знаходзіліся на свежым паветры ў прыгожым лясным парку «Межапарку», які знаходзіўся супраць школы. У гэтым парку было шмат пясчаных узгоркаў, прыгожыя дарожкі, возера Кішэзэрс. Для дзяцей было арганізавана бясплатнае трохразовае харчаванне.

У гэтым парку па сёння знаходзяцца могілкі Райніса, Брацкія, Лясныя і шмат іншых.

Райніс — першы народны пісьменнік, які ў сваёй неўміручай вечнасці зросся з галасамі Даўгавы (Дзвіны) і мора, з мелодыямі латгальскіх песняў, з гісторыяй сваёй Радзімы і яе будучыняй. Райніс латышскай зямлі прынёс славу і прыгоства на ўвесь свет. Куды б ні закінуў лёс Райніса, яго душа была заўсёды з латгальскімі нівамі і дымам труб рыжскіх фабрык. Райніс вельмі любіў дзяцей. Яго вершы дзецям — гэта крыніца выхавання новага пакалення, поўная актыўнасці, дружбы, брацтва, роўнасці:

**«Маладое агуросце, новы**
**сонечны народ,—**
**Хай за нас ты**
**счасьлівейшым будзеш!**
**Хай толькі нашымі будуць**
**усе беды,**
**А ў цябе хай будуць толькі**
**радасці...»**




Райніс быў інтэрнацыяналістам. Яго мэтай было жыць і працаваць на карысць працоўнага народа. Дзякуючы Райнісу, у 1921 годзе быў арганізаваны Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы, які кіраваў беларускім жыццём у Латвіі. Райніс наогул цікавіўся жыццём беларусаў. Ён быў у Віцебску і Мінску. Быў знаёмы з Янкам Купалам.

У верасні 1926 года Райніс прыняў удзел у навуковай канферэнцыі ў Беларускай ССР. У сваёй прамове ў Менску Райніс расказаў пра беларускую культуру і праследаванне яе дзеячаў у буржуазнай Латвіі. «У нас быў такі погляд,— паясніў Райніс,— які існаваў таксама і ў царскай Расіі, што беларуская мова не ёсць мова, але гаворка, дыялект рускай або польскай, што беларусы не народ. Трэба было і ў нас у Латвіі змагацца супроць такіх поглядаў. У часе царскага гнёту беларуская мова лічылася простай, размоўнай, мовай сялян і рабочых, на якой ніколі не будзе магчымасці стварыць культуру, на ёй ніколі не будзе гаварыць інтэлігенцыя. Вялікая рэвалюцыя знішчыла старыя, прымусовыя парадкі, адмяніла таксама гнёт над мовай, забароненая беларуская мова зрабілася вольнай і нават зверхнай мовай на тэрыторыі свайго народа. Тое самае, мы ведаем, рабілася з латышскай мовай і народам, каторыя толькі пасля рэвалюцыі падняліся з прыгнечанага становішча... Інтарэсы латвійскага пралетарыяту патрабуюць, каб беларускі народ развіваўся па магчымасці хутчэй. Я сам паходжу,— прызнаўся Райніс,— з Латгаліі, з тэй часткі, дзе жыве многа беларусаў. З беларусамі павязаны дружнымі і таварыскімі сувязямі. Я абавязаўся абараняць у сейме беларускія інтарэсы, пакуль у іх там не будзе свайго прадстаўніка».

Райніс выступаў за стварэнне арганізацыі культурнай сувязі з зямлёй сацыялізму. Па яго прапанове і з яго ўдзелам у 1926 годзе ў Латвіі была створана культурная арганізацыя для збліжэння з Савецкім Саюзам. Сам ён быў ад пачатку і да смерці кіраўніком гэтай арганізацыі.

«Нам, латышам, — казаў Райніс у сваім выступленні на афіцыйным адкрыцці гэтай арганізацыі ў красавіку 1929 года,— культурна збліжацца асабліва важна, бо гэтае збліжэнне балтыйскім дзяржавам дае адзін важны момант — момант міру. Гарантыя міру адна з важнейшых спраў. З гэтага дня мы пачалі збліжацца з Усходам, з усходнімі народамі. Два найвялікшыя народы, з якімі мы хочам збліжаць сваю культуру, гэта беларусы і велікарусы. Маладая Расія ўжо сказала сваё слова ў літаратуры, мастацтве і навуцы. Ёй адгукаецца Еўропа і вучыцца ў яе. Мы не можам адставаць. Мы жадаем, каб кожная культура развівалася, распаўсюджвалася, тады ўсёй Еўропе прыйдзе будучыня,— шырокая, вялікая будучыня».

Райніс цікавіўся жыццём усіх народаў СССР. У бібліятэцы пісьменніка было многа кніг: беларускіх, рускіх і ўкраінскіх аўтараў. Сярод іх многа падараваных экземпляраў, калі браў удзел у менскай канферэнцыі, каторая ператварылася ў навуковую акадэмію, на якую сабраліся беларускія савецкія пісьменнікі.

Беларускі народны пісьменнік Янка Купала, за новымі творамі якога яшчэ раней уважліва сачыў Райніс, пазнаёміў яго з дасягненнямі савецкай культуры. На адкрыцці канферэнцыі ў сваёй прамове Райніс сказаў: «Новая Беларусь з вялікім энтузіязмам перажывае сваё духовае адраджэнне. Няма ў пісьменніка большай радасці, як бачыць, перажываць і быць захопленым ад чыстых, ясных, светлых патокаў. Гэту радасць і гонар я адчуў тады, як мне прапанавалі прыняць удзел у акадэмічнай канферэнцыі Беларусі». Пажадаўшы «яснай, сонечнай вечнасці беларускаму народу», Райніс выказаў перакананні, што беларуская новая паэзія прынясе новыя каштоўнасці на «зверхчалавечую вышыню будучай пралетарскай культуры». Райніс збіраў матар'ялы для пастаноўкі драмы «Беларусь», але гэтыя матар'ялы загінулі ў часе ссылкі, і драма не была напісана.

Але вярнуся да свайго лёсу.

Восень я пачала працаваць у школе на Чырвонай Дзвіне. За дзень перад пачаткам заняткаў у школе сабраліся настаўнікі. Калі я ўвайшла ў канцылярыю, мяне прывіталі з пачаткам працы ў школе і, нічога не гаворачы, пайшлі разам са мной у мой пакой, які быў тут жа ў школе. Адчыніўшы пакой, я застыла ў здзіўленні. На стале стаялі кветкі, стол быў прыгатаваны на ўвесь калектыў. Было вельмі радасна за такі цёплы прыём. Калектыў быў добры, зладжаны. Кіраўніком школы быў Плыгаўка. Настаўнікі: Нікіфараўская І. І., Кудраўцаў Янка, Слосман М., Юзефовіч Ю. І., Крэйц Н. Г. і іншыя.

Жыццё наладзілася. Энергіі і творчага энтузіязму хапала. Хацелася зліцца з гушчай народа, аддаць яму сваю веду, працаваць на яго карысць, каб хоць маленькую кроплю дабра аддаць на дабрабыт роднага краю. Было дзе і ў чым прыладзіць свае сілы. Трэба было беларусам вучыць іншых быць беларусамі, быць свядомымі, не цурацца роднай мовы. Трэба было даказаць астатнім, што беларусы не горшыя ад іншых нацыянальнасцяў, што і ў беларусаў ёсць свая інтэлігенцыя, свае пісьменнікі, свая літаратура, гісторыя, свая Радзіма. Мы ішлі ў хаты да беларусаў, да бацькоў сваіх вучняў, да знаёмых і гаварылі з імі аб жыцці, аб працы, аб усім, што іх цікавіла. Наладжвалі пастаноўкі п'ес, канцэрты, хор, мастацкую гімнастыку, лекцыі, даклады...



Бяднейшых вучняў, якія жылі за возерам Кшэзэрс, прымалі ў інтэрнат, які быў у памяшканні школы. Усе вучні атрымоўвалі дармовыя абеды. Вучні інтэрната былі на поўным утрыманні школы.

Бацькі вучняў зразумелі нас. Школа расла. Беларусы туліліся да школы, былі актыўнымі ўдзельнікамі ў розных мерапрыемствах школы. Было прыемна і хораша.

**Быў час, калі жыццё кіпела,**
**І пачуццё узносіла ўсіх нас.**
**Было духовае**
**задаваленне,**
**Сьвяты быў час.**
**Але прайшлі хвіліны**
**залатыя,**
**Прайшла краса майго**
**жыцця.**
**І засталіся толькі**
**ўспаміны —**
**Жыцця працяг.**

У Латвіі вельмі ўрачыста святкавалі свята Купалле, або, як называлі яго латышы, свята Ліго, дзень Яна, свята Яна. Гэта свята праходзіла вельмі вясёла, і было яно запраўды народным. У святкаванні Ліго прыймалі ўдзел латышы, беларусы, літоўцы і іншыя народы. Месца для збору людзей выбіралі на ўзгорку, ля лесу, або ля возера. На доўгай жардзіне ўмацоўвалі бочку з смалой або дзёгцем і ўвечары 23 чэрвеня, калі сонца ўжо схілялася за дрэвы, падпальвалі смалу. Дзяўчаты прыходзілі з вянкамі на галаве, з купальскімі кветкамі, або, як іх латышы называлі, травою Яна. Усім мужчынам, імя якіх было Яніс, Ян, Янка, Іван, Ясь, надзявалі вянкі з дубовых галінак на галаву. Яны былі гаспадарамі свята. Многія ўдзельнікі свята, асабліва Янісы, прывозілі бочкі з саладовым півам і сыр Яна, які рабіўся па асобаму рэцэпту. Спявалі песні, танцавалі, вялі карагоды. Да самай раніцы гучалі песні па ўсёй наваколіцы. Было як бы спаборніцтва з другімі вёскамі: хто даўжэй будзе спяваць і весяліцца. Святкаванне праходзіла па ўсёй Латвіі. Хораша было на пляцоўках, сярод каляровых дрэў. І хоць у легендзе сказана, што ў гэтую ноч цвіце кветка папараці, якая прыносіць шчасце тым людзям, якія ўначы пойдуць у лес, сарвуць гэтую кветку, ніхто не адважваўся ісці шукаць гэту кветку. Моладзь цешылася ласкавымі праменнямі заходзячага і ўсходзячага сонца, спевамі птушак і людзей, а таксама чароўным прыгоствам прыроды і факеламі, якія гарэлі да раніцы па ўсёй Латвіі. Толькі на світанні разыходзіліся кожны ў сваю хату.

У Рызе на свята Ліго збіраліся на набярэжнай Даўгавы. Дзяўчаты і хлопцы мелі ў руках пучкі аеру. Спявалі песні Ліго. Набярэжная была дэкарыравана. Усе былі роўныя, усе прымалі ўдзел у гэтай урачыстасці, і ўва ўсіх было ўзаемапаразуменне, бо гэта было запраўды народнае свята.

Усё прайшло, як мара, як прыгожы, незакончаны сон.

15-га траўня 1934 года раніцай я ўстала, адчыніла вакно, палюбавалася вясенніім выглядам Межапарку, удыхнула яго свежае паветра. Вялікая хваля радаснасці напоўніла маю істоту. Я выйшла на вуліцу і вельмі здзівілася. На стаўбах былі наклеены аб'явы, каб кожны чалавек меў пры сабе пашпарт. Прыйшлося вярнуцца, узяць пашпарт, які гадамі ляжаў неўжываны, і паехаць у цэнтр горада. Цэнтр Рыгі быў запруджаны айзсаргамі (членамі латышскай ваенізаванай нацыянальнай арганізацыі). Уладу ў свае рукі ўзяў К. Ульманіс. Усіх, хто не меў пры сабе дакументаў, затрымлівалі і выпускалі пры дастаўленні дакументаў. Ноччу адбыліся арышты. З настаўнікаў беларускіх школ быў арыштаваны Езавітаў Канстанцін Барысавіч, які фактычна ўвесь час кіраваў беларускім рухам у Латвіі. Прасядзеў ён у Рыжскай турме каля паўгода. Пасля звальнення сотні бацькоў яго сустрэлі з такой авацыяй, што, здавалася, яе чуе ўся Чырвоная Дзвіна.

Неўзабаве пацяклі безнадзейныя дні. Пачаўся нацыянальны ўціск. Паступова сталі зачыняцца школы нацыянальных меншасцяў. Замест зачыненых адчыняліся школы змешаных нацыянальнасцяў, выкладанне ў якіх вялося на латышскай мове.

Даўжэй трымаліся рускія школы, хоць і іх стала значна менш.

Нашы вучні пасля закрыцця беларускіх школ разышліся ў іншыя школы. Настаўнікі засталіся без працы, бо Пігулеўскі У. П., які быў кіраўніком Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы, калі выдавалі пасведчанні аб заканчэнні двухгадовых беларускіх настаўніцкіх курсаў, пастанавіў, каб у пасведчаннях пісалі, што выпускнік мае права працаваць толькі ў беларускіх школах. Пазней некаторыя з беларускіх настаўнікаў звярталіся да Пігулеўскага з просьбай аб уладкаванні іх на працу. Ен адказваў, што беларускіх школ няма і аб працы настаўніка няма чаго і думаць. Так не адказвалі нават латышы.

**НА ЗДЫМКАХ:** вокладка кнігі В. Сахаравай «На полацкім замчышчы»; «Дзіцячая пляцоўка». У цэнтры Э. КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ, Н. ПЛЫГАЎКА, З. КАРНАВУХАВА. 25 чэрвеня 1933 года; вокладка часопіса «Беларуская школа ў Латвіі» з партрэтам Я. РАЙНІСА.




Працяг. Пачатак у № 40, 41.

## ПОШУКІ, ГІПОТЭЗЫ

# ХТО ІЛЮСТРАВАЎ «ГАПОНА»?



**К. БРЖЭСКІ. Сцэна ў карчме. Ілюстрацыя да паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча «Гапон». 1855.**

ДРУГАЯ кніжка Дуніна-Марцінкевіча — знакаміты «Гапон» — выдадзена ў 1855 годзе мінскімі кнігарамі Бейлінымі. Друкавала яе мясцовая друкарня Дворца. Выглядае кніжка досыць прыстойна: зручны невялікі фармат, якасная папера, выразны друк. Ёсць і ілюстрацыі, выкананыя ў мінскай жа літаграфіі Фалька. Іх чатыры, адпаведна з чатырма песнямі-часткамі паэмы: скокі ў карчме, бойка, сцэна прыёму рэкрутаў і ўрэшце — высакародная гуманная пані благаслаўляе шчаслівую пару — Гапона і Кацярыну. Наяўнасць ілюстрацый спецыяльна адзначана на тытуле: «Упрыгожана 4 гравюрамі (Rycinami)». У малюнках адчуваецца ўплыў тагачаснага народнага лубка, а можа і некаторы недахоп прафесіяналізму.

У прыхільнай увогуле рэцэнзіі на «Гапона» У. Сыракомля крытыкаваў якасць літаграфска-гравёрных работ, лічыў, што майстра не выкарыстаў усіх сваіх магчымасцей. Віншуем горад Мінск з тым, што ў ім абуджаецца літаратурны рух,— пісаў Вясковы лірнік. — Браты Бейлінавы [Бейліны] і Е. Дворац варушацца над выданнем кніг; увогуле някепская друкарня апошняга адпавядае мясцовым літаратурным патрэбам, а літаграфія Фалька мае магчымасць нават ілюстраваць кнігі. Калі б мы не бачылі іншых работ пана Фалька, не адважыліся б сказаць слова пра чатыры малюнкі, якімі ўпрыгожаны «Гапон», але ведаем яго карту Мінскай губерні, ведаем ілюстраваны буквар і ўзоры каліграфіі. У тых работах відаць гладкі разец і правільны малюнак, таму мы з добрым намерам рэкамендавалі віленскім выдаўцам звяртацца да пана Фалька з рознымі сваімі патрэбамі. Ілюстрацыі да «Гапона» не апраўдалі нашага ўражання. Добры малюнак сцэны ў карчме скрэслены нейкімі штрыхамі, якія зрабілі агіднымі твары постацей; як нядбала выглядаюць рукі, як паламаны ногі! Нейкую карыкатуру ўяўляе сцэна набору! Чаму такая пачварная постаць пані ў апошняй сцэне? Рабіць прыгожыя рэчы, якія разыходзяцца ў межах аднаго горада, і выступаць з няўдалымі ілюстрацыямі ў кніжцы, якая разыдзецца па ўсяму краю, — гэта вялікае расчараванне для выдаўцоў, абраза для мастакоў і абыякавасць да грамадскасці. Для карысці будучых выданняў, якія, вядома, з'явяцца ў Мінску, выгаварваем свае заўвагі літаграфіі пана Фалька, тым болей упэўнены мы, што ён мог даручаную работу выканаць лепей».

Словам, ацэнка ілюстрацый крытычная, адмоўная. Але Сыракомля гаворыць найперш пра якасць літаграфскіх работ. У адным выпадку ён падкрэслівае, што «добры малюнак» папсаваны літографам.

Хто ж быў аўтарам малюнкаў?

Рамуальд Зямкевіч, які шмат ведаў пра мінулае беларускай літаратуры, меў у сваім распараджэнні рэдкія крыніцы, якія да нас не дайшлі, дае нечаканы адказ: сам Дунін-Марцінкевіч! «Кніжка выйшла лацінскімі літарамі з малюнкамі работы самога Марцінкевіча, каторыя рабіў менскі літограф Фальк», — паведамляецца ў вядомым артыкуле гэтага слыннага даследчыка і калекцыянера «Стары Менск у беларускіх успамінах» (1919).

Інфармаванаму, дасведчанаму Зямкевічу можна было б паверыць, калі б не подпісы лацінскімі літарамі, якія выразна чытаюцца на ілюстрацыях.

На адной паметка-крыптанім К. В.

На другой некалькі паметак: rys. K. Brz., grav. E. S., Lith. F. Falka. Гэта значыць: «Маляваў К. Брж., гравіраваў Э. С. у літаграфіі Ф. Фалька».

Подпіс на трэцяй гаворыць пра мастака ўжо «адкрытым тэкстам»: K. Brzeski.

Такім чынам, на ілюстрацыях ёсць не толькі фірменныя знакі літаграфіі Фалька, прачытваюцца і ініцыялы нейкага мясцовага майстра-гравёра (Э. С.), які непасрэдна выконваў заказ, а, самае галоўнае, разбіраецца подпіс аўтара малюнкаў — К. Бржэскі (часам ён хаваўся пад крыптанімам К. Б., К. Брж.).

Звестак пра такога мастака ў даведачнай літаратуры не захавалася. Перад намі беларускае прозвішча (відаць, ад назвы Брэста) з польскім гукавым напластаваннем, з пэўнай, так сказаць, арыстакратычнай афарбоўкай, якой любіла ў свой час бліснуць наша шляхта.

Прозвішча гэта сустракаецца ў гісторыі культуры. З Бржэскімі, напрыклад, сябраваў выдатны рускі паэт А. Фет (дарэчы, адзін з паэтычных настаўнікаў нашага Максіма Багдановіча). У біяграфіі Фета чытаем, што гэтае сяброўства пачалося ў 1845 годзе, калі Фет служыў афіцэрам у Херсонскай губерні. Тут ён пазнаёміўся з мясцовым памешчыкам, паэтам-дылетантам Аляксеем Фёдаравічам Бржэскім (1818—1868) і яго жонкай Аляксандрай Львоўнай (1821 — ?), якая стала адной з самых дарагіх Фету жанчын. Пакінуўшы Херсонскую губерню ў 1853 годзе, Фет захаваў з Бржэскімі сяброўскія сувязі. У 1855 годзе ў часопісе «Современник» з'явілася некалькі вершаў Бржэскага за подпісам «А. Бр-ий». Лічыцца, што гэтай публікацыі садзейнічаў Фет. Новая паласа адносін Фета з Аляксандрай Львоўнай пачалася ў 1868 годзе, пасля смерці яе мужа. У творчай спадчыне паэта ёсць нямала цудоўных твораў, прысвечаных херсонскім сябрам: «Бржэскім пры атрыманні кветак і нот» (1847), «А. Ф. Бржэскаму» (1866), «А. Л. Бржэскай» («Далёкий друг, пойми мои рыданья...», 1879), «А. Л. Бржэскай» («Опять весна! опять дрожат листы...». 1879). «А. Л. Бржэскай» («Нет, лучше голосом...», 1886), «Мы встретились вновь...» (1891) і інш. Цікава, што А. Бржэскі надрукаваў свае вершы ў «Современнике» акурат у той час, калі ў Мінску выйшаў «Гапон» з ілюстрацыямі К. Бржэскага, аднак ніякіх непасрэдных выхадаў Бржэскіх з фетаўскага акружэння на Беларусь не праглядваецца. Хутчэй тут выпадковае супадзенне. Хоць нейкае сваяцтва з цягам часу можа і адкрыцца.

Але вось новы след: у «Польскім біяграфічным слоўніку» знайшоўся артыкул пра вядомага расійскага эканаміста канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, нашага земляка: «Бржэскі Мікалай (1860—1910)... Нарадзіўся ў Мінску Літоўскім, сын Карнэля і Марыі з Захаравых, скончыў тамсама гімназію...» Ёсць пра яго запіс і ў «Биографическом словаре профессоров и преподавателей С.-Петербургского университета...» (т. 1, 1896): «Бржэскі Мікалай Карнілавіч, нарадзіўся ў 1860 годзе, з дваран Мінскай губерні...» Зацікавіў мяне ў даным выпадку не столькі сам эканаміст (хаця нельга не радавацца талентам і поспехам нашых землякоў на самых розных нівах), колькі яго бацька. Выходзіць, у часы Дуніна-Марцінкевіча ў Мінску, які даўней часам называўся Мінскам Літоўскім, жыў Карнэль (Карніла) Бржэскі, К. Бржэскі, які і мог быць ілюстратарам «Гапона».

Гэта дало падставы звярнуцца да матэрыялаў Мінскай дваранскай, дэпутацкай зборні ў Цэнтральным гістарычным архіве Беларусі. Там адшукалася ёмістая радаводная справа мясцовых дваран Бржэскіх (часам называліся Жэготамі-Бржэскімі) са звесткамі (няхай і няпоўнымі) пра Карнэля Бржэскага.

Вось яго «анкетныя даныя», якія ўдалося «вылавіць», гартаючы справу.

Каталік, як гэта часцей і было ў тагачаснай беларускай шляхты. Поўнае імя Карнэль-Сямён, сын Міколы-Амброзія. Нарадзіўся 23 мая 1833 года. Далёкія продкі мелі маёнткі на Валыні і Мсціслаўшчыне, потым род збяднеў. У 1853 годзе сям'я жыла ў Нясвіжы, хоць і была прылічана да дваран Мінскага павета. Паводле пазнейшых дакументаў, у бацькоў быў у Нясвіжы драўляны дом з увалокаю ворнай зямлі. У пасямейным спісе 1853 года пра бацьку сказана: «Имеет 3-х сыновей: Гектора 27, Корнелия 20 и Станислава 14 лет и дочь Софию 10 лет. Из них Гектор находится в частной должности надзирателя при шоссейных работах, Корнелий в Слуцкой гимназии учеником в III классе, а Станислав и София при родителях». З Мінскам Бржэскія былі звязаны, відаць, і раней, яшчэ больш умацавалася гэта сувязь з красавіка 1854 года, калі старэйшы сын Гектар паступіў на службу ў губернскую паштовую кантору. Неўзабаве да яго прыехаў і малодшы брат Карнэль, у кастрычніку гэтага ж года ён звярнуўся ў дваранскую дэпутацкую зборню з просьбай выдаць шляхецкае пасведчанне для паступлення ў цывільную службу. У лістападзе 1855 года Карнэль служыў у Бабруйскім павятовым казначэйстве і ў мясцовым Мікалаеўскім саборы ўзяў шлюб з Марыяй Фамінічнай Захаравай, праваслаўнага вызнання.

Апошнюю акалічнасць хацелася б падкрэсліць спецыяльна. Што прымусіла католіка пайсці ў схізматыцкі храм? Думаецца, гэта гаворыць аб пэўнай беларускай талерантнасці, шырыні поглядаў Карнэля ці аб незвычайным каханні. Карнэль і Марыя — якраз бацькі будучага пецярбургскага эканаміста. У 1860 годзе, калі нарадзіўся Мікола, яго бацька Карнэль Бржэскі лічыўся старшым сартавальнікам мінскай паштовай канторы, калежскім рэгістратарам. Звязаны з Бабруйскам (родны горад Дуніна-Марцінкевіча) і Мінскам, ён, несумненна, уваходзіў у кола знаёмых нашага песняра. Напісанае ім прашэнне 1854 года ў радаводнай справе сведчыць, што ён валодаў каліграфіяй, меў, такім чынам, нейкія мастацкія здольнасці. У дакуменце спецыяльна адзначана: «Сие прошение сочинял и переписывал сам проситель Дворянин Корнелий Николая сын Бржеский...» Гэты К. Бржэскі, трэба думаць, і выканаў малюнкі для «Гапона» і стаіць, такім чынам, ля вытокаў беларускай кніжнай графікі новага часу.

Як і сам Дунін-Марцінкевіч, К. Бржэскі быў звязаны з удзельнікамі вызваленчага руху і паўстання 1863 года. Ды, па сутнасці, хто з карэнных мінчан тады не спачуваў паўстанцам?.. Сям'ю Бржэскіх гэтыя падзеі зачапілі асабліва моцна. Брат жонкі Павел Захараў — малады змагар-інтэрнацыяналіст — быў паўстанцам атрада Трусава. У брашуры Янкі Лучыны «З крывавых дзён» пра паўстанне на Міншчыне чытаем: «Вельмі многа рускіх, напрыклад, Захараў, Кукін і іншыя, прынялі чынны ўдзел у прадпаўстанцкім руху. Дзякуючы свайму паходжанню, яны лягчэй маглі даступіцца да ўлад і ўстаноў, даведваліся аб розных патрэбных дэталях і перадавалі іх сваім прыяцелям-палякам. Усе яны пасля прынялі дзейсны ўдзел у партызанскай вайне і пагінулі ў снягах Сібіры».

Вайскова-судная справа Паўла Фаміча Захарава захоўваецца ў Вільнюсе. У снежні 1863 года ён даў аб сабе наступныя паказанні: 21 год, дваранін Мінскай губерні, нацыянальнасць (рускі? беларус?) не пазначана, веравызнанне праваслаўнае, «имею одну только сестру, движимого и недвижимого имущества не имею». Вучыўся ў V класе Мінскага высакароднага пансіёна. Кватараваў у доме Басі Мішкіндавай у сваёй сястры Марыі Бржэскай. Ёй (сястры) 22 гады, яна жонка службоўца (старшага сартавальніка) мінскай губернскай пошты (у канторы служыў і бацька Антона Трусава). І тут мы робім маленькае нечаканае адкрыццё. Калі ў канцы 1863 года Марыі 22 гады, то ў 1855 годзе (дата замужжа) ёй было не больш... 14 год. А ў Бабруйску, дзе маладых, відаць, мала ведалі, у шлюбным пасведчанні ёй праставілі 20 гадоў. Ці не было тут наўмысных уцёкаў з Мінска ў Бабруйск? Як вядома, падобная рамантычная гісторыя жаніцьбы была і ў самога Дуніна-Марцінкевіча, што яшчэ больш збліжае аўтара і ілюстратара «Гапона». Ужо немалады паэт мусіў апекавацца юнымі рамантыкамі.

Вось такая намячаецца біяграфія. Выходзіць, К. Бржэскі быў мастаком-аматарам, што, зрэшты, сказалася і на малюнках.

Пра іншыя яго мастацкія работы звестак пакуль няма. Хутчэй за ўсё яму не ўдалося развіць свой талент. Яго дзеці былі людзьмі здольнымі, паспяхова працавалі на самых розных нівах. Як ужо гаварылася, адзін з сыноў стаў вядомым эканамістам. Бліскуча скончыў Пецярбургскі універсітэт атрымаўшы за студэнцкую навуковую працу залаты медаль і прэстыжную прэмію. Паспяхова абараніў магістарскую і доктарскую дысертацыі, займаў высокія пасады ў міністэрстве фінансаў. Асноўныя яго працы адносяцца да тэорыі і практыкі падатковага абкладання, юрыдычнага побыту сялян. У прысвечаным яму вялікім артыкуле ў «Новым энцыклапедычным слоўніку» Бракгаўза і Эфрона апошняя праца Бржэскага «Нарысы аграрнага побыту сялян» (1908) называецца яго «эканамічным запаветам». Паказваючы надзвычай складаную сітуацыю ў тагачаснай вёсцы, няўдачу ўрадавых рэформ, Бржэскі бачыў выйсце ў абнаўленні ўсяго народнага жыцця. «Аграрнае пытанне ўсё яшчэ стаіць ва ўсёй сваёй грознай велічы», — перасцярагаў эканаміст.

Мікалай Карнэльевіч Бржэскі захаваў сантымент да роднага Беларуска-Літоўскага краю, быў цесна звязаны з Віленскім таварыствам сяброў навукі, утвораным у 1907 годзе, падарыў яму сваю бібліятэку і некаторыя рукапісы. Лічыўся членам-апекуном гэтага таварыства. У Вільні Бржэскі і пахаваны.

Малодшы сын Карнэля і Марыі Бржэскіх Уладзімір перад першай сусветнай вайной працаваў інжынерам-пуцейцам на Украіне ў Ковелі. Сын апошняга (унук Карнэля) быў тады студэнтам Пецярбургскай кансерваторыі. Так што ў родзе зноў праявіліся мастацкія здольнасці...

Архіўныя дакументы, іх уважлівае супастаўленне, даюць нам шанс здабыць новыя звесткі пра акружэнне Дуніна-Марцінкевіча, пра культурнае жыццё Мінска мінулага стагоддзя.

**Генадзь КІСЯЛЕЎ.**

# НЕ ВЫЧАРПАЦЬ ТЭМЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

## *Івану ПТАШНІКАВУ 60 гадоў*

Споўнілася 60 год вядомаму беларускаму пісьменніку Івану Пташнікаву. Рэдакцыя газеты «Голас Радзімы» віншуе пісьменніка з юбілеем ад свайго імя і ад імя чытачоў.

Вельмі хацелася сустрэцца з Іванам Мікалаевічам, пагаварыць пра сучаснасць і будучыню нашай краіны, пра яго творчасць. Не атрымалася. Іван Мікалаевіч паскардзіўся на дрэннае здароўе. І яшчэ, як ён сказаў па тэлефоне, гаварыць пра тое, да чаго мы дайшлі ў сваім жыцці, яму не хочацца. А размова пра яго творчасць нікому сёння не патрэбна. Так лічыць пісьменнік, якім напісана шмат прызнаных чытачом апавяданняў, аповесцей. Выйшаў збор яго твораў у 2-х, а нядаўна — у 4-х тамах. Знята кароткаметражная стужка па аповесці «Сцяпан Жыхар са Сцешыц» (фільм «Родам адсюль») тэлефільм па аповесці «Тартак».

Канешне, справа не ў колькасці кніг і фільмаў. Справа ў таленце пісьменніка і нашым нежаданні (ці няздольнасці) заўважыць і ацаніць яго. Мы так заклапочаны штодзённым, што няма нам калі ўзяць у рукі і адкрыць добрую кнігу. Не ўпэўнена, што гэта наша віна а не бяда. Занадта ж замучаныя мы неабходнасцю выжыць (не жыць), страхам за лёс сваіх дзяцей. Таму вельмі часта людзям не да сур'ёзнай літаратуры. Так і цягне купіць кнігу з серыі пра славутую Анжаліку і з ёю забыцца пра сапраўднае мінулае і сучаснасць. Цягне... Аднак унутраную пустэчу не запоўніць лёгкім раманам. І больш-менш інтэлігентны чалавек некалі звернецца да той літаратуры, прадмет якой — людзі і іх спрадвечныя праблемы: каханне, вернасць, здрада.

Таццяна Шамякіна пісала, што Іван Пташнікаў увайшоў у літаратуру, калі павысілася цікавасць да маральных праблем, асобна да кожнага чалавека. Чалавек хвалюе пісьменніка ў сваёй сіле і ў сваёй слабасці.

Дарэчы, Івана Пташнікава неаднойчы папракалі за немаштабнасць падзей у яго творах. Напрыклад, «Найдорф». Самая значная падзея аповесці — прарыў блакады — застаецца «за кадрам».

Аднак Пташнікава, як мне здаецца, цікавіць у першую чаргу тое, што адбываецца ў душы кожнага чалавека, змяненні яго ўнутранага свету ў кантэксце гісторыі.



Часцей за ўсё Іван Пташнікаў звяртаецца да вобразаў сялян. І з кожным новым творам пісьменніка мы ўсё бліжэй і бліжэй да яго малой радзімы, што на Лагойшчыне. Неаднойчы крытыкі звярталі ўвагу на прыхільнасць Івана Пташнікава менавіта да сваіх родных мясцін. Вельмі цікавае назіранне зрабіў Серафім Андраюк у прадмове да двухтомніка пісьменніка. Калісьці Андэрсен заўважыў Фолкнеру, што той, мабыць, будзе ўсё жыццё пісаць пра тую частку зямлі, якую лепш ведае — сваю радзіму. Праз шмат год Фолкнер напіша: «Я выявіў, што мая ўласная малюсенькая паштовая марка роднай зямлі вартая таго, каб пісаць пра яе, што майго жыцця не хопіць, каб вычарпаць гэтую тэму». Здаецца, Іван Пташнікаў аб сабе мог сказаць тое ж самае.

Многія заўважаюць, што чытаць яго творы нялёгка. Маўляў, стыль занадта своеасаблівы, мова складаная. Не мне ўступаць у палеміку з літаратуразнаўцамі. Але заўважу: стоячы ў перапоўненым аўтобусе, Івана Пташнікава сапраўды цяжка чытаць. Што зробіш (прабачце за паўтор), калі многія з нас наогул не чытаюць кніг у іншых месцах.

Стыль Івана Пташнікава патрабуе павольнага і спакойнага чытання. Ён вылучаецца ўвагай да дэталяў, дробязяў, якія як нельга лепш характарызуюць чалавека ці падзею. З першага свайго надрукаванага твора «Чычык» у «Полымі» за 1957 год Іван Пташнікаў імкнецца да вычарпальнай характарыстыкі герояў, да «фіксацыі ўсіх рухаў душэўнага жыцця» (Т. Шамякіна).

Пташнікава нялёгка чытаць яшчэ таму, што тэмай яго вельмі часта была вайна («Найдорф», «Тартак», іншыя творы). Шчымлівая аповесць «Тартак». Лёс «маленькіх» людзей, безабаронных перад колам гісторыі. Вайна калечыць душы. Учытаемся ў радкі «Тартака»: «У вёсцы стаяў крык і плакалі, усё роўна як вязлі каго хаваць на могілкі». Людзі перастаюць быць людзьмі, асоба знікае. Улада сілы (фашысты ў даным выпадку) здольная загубіць любое жыццё. Жудасна чытаць, як сагналі вёску ў адно месца і прадыктавалі ўмовы жыцця— любымі сродкамі знайсці хлеб. Дзеці не разумеюць, што ў іх ёсць надзея, плачуць. І хлопчык Валодзя звяртаецца да маці: «Я жыць хачу, я жыць хачу...» Уласавец не вытрымлівае, плача, гледзячы на людское гора. Можа ад жалю, а можа — ад сораму.

Героі І. Пташнікава — людзі простыя. У шматлікіх унутраных маналогах — іх звычайныя праблемы і цяжкасці, іх жыццё. Лексіка персанажаў не адрозніваецца ад звычайнай сялянскай. Яна натуральная, насычаная дыялектызмамі. Хочацца працытаваць Генадзя Шупеньку (кніга «Галоўнае — талент») наконт мовы Івана Мікалаевіча: «О, якая мастакоўская сіла за гэтай прастатой, за гэтым натуралізмам пташнікаўскага слова!»

Часта падзеі вайны ў І. Пташнікава праходзяць праз дзіцячую свядомасць. У сувязі з гэтым назіраннем хацелася б спыніцца на некаторых ягоных апавяданнях. Хлопчыку 10 год («Алёшка»). Вайна. Ён ужо прывык да таго, што ў іх няма хаты, што жыве з мамай у хляве, што фашысты разбурылі царкву. Свет парушаны. Аднак Алёшка яшчэ зусім дзіця. І думае больш не пра жыццё, а пра тое, як крыўдна, калі яго завуць чырвоным. Ён жа не вінаваты, што валасы яго рыжыя. Алёшка думае пра бацьку. І гіне, калі нясе да яго пісьмо. Вайна.

Дзеянне «Аленяў» праходзіць ужо пасля вайны, тут іншыя праблемы. Але вайна пакінула свой след. Дзяўчынка, замілавана гледзячы на лес восенню, успамінае як аб нечым натуральным, што «Ксеню забілі немцы». А калі чуе, як рвуць карчы, прымае гэта за іншыя выбухі і ёй робіцца страшна. Вайна. У апавяданні «Алені» І. Пташнікаў паказаў сябе цудоўным майстрам пейзажа і дэталяў. Учытаемся і замілуемся разам з пісьменнікам: «Сядзе пчолка на верасовую галінку, калышыцца, пасля махне яе аж да самай зямлі, абдыме ножкамі, перагнецца ўся, адтапырыць крылцы і леэе з галоўкай у маленькую кветачку. Пасля застыне, не кранецца, як памерла, — п'е».

Не хочацца думаць, што гэтыя словы нікому не патрэбныя. Хочацца спадзявацца, што надыдзе час, калі ў нас будзе магчымасць і жаданне чытаць сапраўдную сур'ёзную літаратуру. А Іван Пташнікаў захоча сустрэцца з журналістамі і сказаць сваё слова пісьменніка людзям.

***

6 кастрычніка ў Доме літаратара адбылася кінавечарына, прысвечаная раману Пташнікава «Алімпіяда» У свой час гэты твор меў значны рэзананс. Сёння ж на суд гледача выносіцца тэлевізійная стужка паводле аднайменнага рамана І. Пташнікава. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр Аляксандр Гудковіч. Галоўную ролю выконвае вядомая актрыса Таццяна Мархель. Яна стварае вобраз шчыры, пяшчотны, запамінальны. Рэжысёр фільма, дзякуючы прафесійнай працы акцёраў, паказаў беларускую вёску з яе непаўторным каларытам, пявучай натуральнай мовай.

**Алена СПАСЮК.**

## *ДА 110-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Якуба КОЛАСА*

**Надыходзіць восень, і мы часцей згадваем назвы: Акінчыцы, Альбуць, Мікалаеўшчына, Ласток, Смольня, Цёмныя Ляды. Гэта месцы, дзе жыла сям'я Міхала Міцкевіча, бацькі Якуба Коласа. У кастрычніку-лістападзе на Стаўбцоўшчыне, як правіла, адбываецца свята паэзіі, прысвечанае памяці вялікага песняра. Сёлета яно будзе асабліва ўрачыстым, шматлюдным: спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа.**

**Усе вышэйзгаданыя сядзібы склалі адзіны мемарыяльны комплекс-музей паэта. Філіялу музея Якуба Коласа ў Смольні споўнілася ўжо 25 гадоў. Побач з домам, дзе жылі маці паэта і яго дзядзька Антось, пабудавана двухпавярховае памяшканне для літаратурнай часткі экспазіцыі. Тут, у Смольні, шумяць старыя ліпы, пасаджаныя паэтам.**

**Своеасаблівым помнікам Якубу Коласу і яго творчасці на радзіме паэта стала мастацка - мемарыяльная кампазіцыя «Шлях Коласа», створаная ў 1990—1992 гадах. Яна размясцілася па дарозе з Акінчыц да Мікалаеўшчыны. Комплекс драўляных скульптур па матывах твораў Якуба Коласа «Дарога да дзядзькі Якуба», «Песняй вітаю я вас» і іншыя радуюць наведвальнікаў музея сваёй самабытнасцю і арыгінальнасцю, дапамагаюць зразумець глыбінныя вытокі па-сапраўднаму народнай коласаўскай паэзіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: кожная сцяжынка, кожны камень, маляўнічы куток прыроды, дзе правёў сваё дзяцінства Я. Колас, з любоўю апісаны ім у паэме «Новая зямля»; фрагмент мемарыяльна-мастацкай кампазіцыі «Шлях Коласа»; тут у Смольні 80 гадоў назад упершыню сустрэліся два вялікія паэты Я. Колас і Я. Купала; Альбуць. Філіял літаратурнага музея Я. Коласа. У гэтай хаце ўсё нагадвае пра паэта.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**









**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1850.
Падпісана да друку 12. 10. 1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12